# ПАГОНЯ

**Адрэс рэдакцыі і канторы:**
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

## ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

**Падпіска каштуе:**
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы**
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па пагляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**№ 3.** | **Коўна, Чацьверг, 12 жніуня 1920 году.** | **Год І-шы.**


Коўна, 11 жніўня.

Руска-польская вайна зьяўляецца вельмі цікавай ня толькі тым, што Польшча не абрахавала ў дастолькавай мерэ сілы праціўніка, але яшчэ й тым, аб чым палякі сусім ня мысьлілі, гэта значэ тым, што гэтая вайна вызаве прабуджэньне рускага нацыяналізму, які быў ўжо зацішан інтэрнацыянальным бальшэвізмам. Нават і тады, калі ўсе народы быўшай царскай Расеі загаварылі аб сваей нацыянальнай незалежнасьці, аб Вялікарусіі не гаварылася ані слова, а гаварылася толькі аб інтэрнацыянальным бальшавізьме, які меў на мэці рэшаць ўсе нацыянальныя спрэчкі і быць дзеля іх найлепшым лекарствам.

Вось, аб'яўленьне Расеі вайны Польшчай і вызвала тоя, што ўсе парціі і усе рускія, як даўнейшыя гэнэралы і афіцэры быўшай царскай арміі, а таксама чыноўнікі, купцы і г. д. абьедналіся не пад клікам „інтэрнацыянальнага бальшэвізму," а пад клікам нацыянальна-рускім і далі адпор Польшчэ, якая ўжо у сваёй імпэрыялістычнай палітыцэ пачынала гразіць ня толькі Літве, Беларусі і Украйне, але і самой Расеі, якой угражала астацца на доўгія часы пад уплывам польскай шляхоцкай магутнасьці.

З прычыны гэтага нацыянальнага абьеднанья, зьблекнуў сусім інтэрнацыянальны бальшэвізм і таму трэба сабе ўясьніць раз на заўсёды, що пабядзіцелем у руска-польскай вайне зьяўляецца не „адноўлены дух" бальшэвіцкай Расеі—які меу громам праляцець пабядзіцелем па ўсяму сьвету як „новы дух часу," а толькі **н а ц ы я н а л ь н ы д у х Р а с е і**, які вырваўся з-пад бальшэвіцкага замка, і які другі раз бальшэвікам ня ўдасца хыба запёрці ўзноў пад замок. З мамэнту прабуджэньня нацыянальнай Расеі, пачынаецца мамэнт аслабленья інтэрнацыянальнага бальшэвізму і трэба чэкаць, што, ў хуткім часе, ніколі быццам не зьменяемыя Ленін і Троцкі калі яны не застасуюцца да новых патрэб' будуць заменены іншымі людзьмі праўдзівага новага духу часу. Да і ў самым бальшэвізьме мы бачым ў апошнім часе ўжо вялікі зварот ў права: перэстаў ён быць бальшэвізмам разрушыцельным, а робіцца быццам будаўнічым і з кожнай хвіляй прыстасовываецца да жыцьця з капіталістычнымі гаспадарставамі і калі бальшэвіцкія правяшчыя кругі зойдуць з этай будаўнічай дарогі, то янібудуць зьмешчаны самой жызьняй — бо кожная „гістарычная перамена" зьменяе і „гістарычных людзеў", кожная хвіля мае сваіх „Наполеонаў". Прайграла Польшча вайну з бальшэвікамі, але і бальшэвікі прайгралі вайну ня толькі з Польшчай, але і нагул. Выйграла тутака толькі нацыяналная Расея.

## Дэкларацыя
### Старшыні міністроу Д-ра ГРЫНЮСЯ,
(Працяг)

Дзеля дасягненьня гэтай мэты, Урад намерэваецца узмацаваць знашэньня Літвы з вялікімі дзержавамі Еўропы, асабліва з Вялікай Брытаніей, якая дасюль выказала нашаму маладому гаспадарству многа прыхільнасьці. Апрыч таго, адным з найважнеючых заданьняў нашай закардонавай палітыкі будзе апрэдзеленьне і ўнармаваньне адносін памеж нашымі найбліжэйшымі суседзямі. Што датычыць падстаў, на якіх гэтыя адносіны маглі-б быць нармаваны, то Ўрад уважае, што палітыка агрэсыўна-імпэрыялістычная не знайшла-б адгалоску ў нашым народзе і Ўрад будзе уцікаць гэткай палітыкі.

Цэнючы карысьць добрых адносін з суседзямі, Ўрад будзе старацца керавацць засадай абе'ктыунага права і йскаць шляху паразуменьня. Але адначасна Ўрад пільна будзе сьцерагчы, дзе канчаюцца кампрамісы і пачынаецца непрыкасноўнае права нашага народу. Гэтае права Ўрад будзе гарача бараніць ведаючы, што за ім стаіць ўвесь народ.

Ўрад спадзяецца, што суседзі ацэнюць і зразумеюць гэтую нашу гатоўнасьць да справядлівасьці і згоды.

Пачатыя яшчэ тымчасовым Урадам мірные перэгаворы з Росеяй, Ўрад будзе старацца давясьці да заключэньня адпаведнага міру.

З нашымі суседзямі з пауночы і з заходу ўжо само гэаграфічнае палажэньне змушае да супольнасьці, асабліва ў распачатку гаспадаркі. Ўрад спадзяецца, што ня будзе трудным завязаць адносіны добрага суседзтва. З Малай Літвой будуць узмацовывацца ужо пачатыя адносіны.

З БЕЛАРУСАМІ, З ЯКІМІ НАРОД ЛІТОЎСКІ ЗЛУЧАЕ УСПАМІНЫ СУПОЛЬНАЙ ПРОЙШЛАСЬЦІ І СУПОЛЬНАЙ НЯДОЛІ, ЎРАД БУДЗЕ СТАРАЦЦА УСТАНАВІЦЬ АДНОСІНЫ ПРЫЯЦЕЛЬСКІЯ І СУСЕДЗКІЯ.

Нават і з палякамі Ўрад заўсёды гатоў згаварывацца, калі яны запрапануюць адпаведную падставу да тых згавораў. Народ літоўскі гатоў усё забыцца і жыць з палякамі, як з добрымі суседзямі, калі яны зьвернуць нам тоя, што нам праўна належэ; шкада толькі, што дасюль не відаць, каб палякі да гэтага былі склонны. Яны трымаюць ўцяж забраную пры дапамозе аружнай сілы значную часьць нашай тэрыторыі з сталіцай Вільняй. Праследуюць яны і давюць нашых грамадзян, вывозяць багацьця нашага краю, не трымаюцца дэдемаркацыйнай ліньні, нападаюць на нашы мястэчкі і вёскі. Урад Літоўскі закладае проці такога чыну палякоў найбардзей station станоўчы пратэст і обвешчае, што пакуль палякі ня звернуць непраўна заграбленай тэрыторыі, з імі ня можэ быць добрых суседзкіх адносін, ня може быць таксама і праўдзівага міру.

Гаспадарчая адбудова краю і павялічэньне яго прадукцыі будзе адным з найважнеючых заданьняў Ўраду, бо паўстаньня на ногі пад узглядам эканамічным ёсць падставай нашай палітычнай незалежнасьці. У часе сусьветнае вайны, багацьця нашага краю і яго гаспадарка вельмі пацярпелі. Многа жывога і мертвага інвэнтару вывезена. Гандэль і грашовая гаспадарка здэзарганізованы. У гэтым абхваце эканамічнай адбудовы і у распачатку гандлю Ўрад будзе ўважаць, каб крэдыты дзержаўные і прыватные былі зужываны, водлуг можнасьці, ў найлепшы і найкарыстнейшы спосаб. У край будуць упускацца патрэбныя рэчы і будзе ўзбаранен увоз роскашы. З краю будуць вывазіцца тыя тавары, бэз якіх можна абхадзіцца. (Працягбудзе).

## Закон
### аб надзеле ваенных зямлей.

1. Вайсковыя беззямельныя і малазямельныя грамадзяне Літвы, якія самаахвотна, ці па прызыву Літоўскага Ўраду паступілі ў Літоўскую армію абараняць незалежнасьць Літвы, за час сваёй ваеннай службы ня былі пад судом і сумленна праслужылі да канца вайны і дэмабілізацыі, маюць пераваґу ў атрыманьні зямлі ад Дзяржавы перад іншымі грамадзянамі.

Увага: Сумленна служыўшыя ў войску і выбыўшыя з радоў войска як пакалечаныя, чы па слабасьці здароўя, могуць атрымаць зямлю сёлета.

2) Показаныя ў 1 ст. гэтага закону правы ваенных у выпадку іх сьмерці на полі бітвы, чы ў другім мейсцы пры выпаўненьні сваіх службовых абавязкаў, пераходзяць, як спадчына іх дзяцём, а калі іх няма, то бацькам.

3) Малазямельным лічыцца той, хто сам, чы яго бацькі маюць на правох уласнікаў ня больш, чым шэсьць-дзесяць дзесяцін зямлі, прыгоднай для абработкі, ў залежнасьці ад гатунку і палаженьня, аб чым судзіць Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці.

4) Для гэтай мэты зямля бярецца:

а) з знайходзючыхся ў распараджэньні Дзяржавы ўсякага роду зямель;

б) з прымусова ўзятых зямель ад прыватных уласьнікоў, маючых ад 500 да 800 дзесяцін да 15 $_0/^0$ і ад маючых больш чым 800 дзесяцін да 30 $_0/^0$.

5. Дзеля прымусовага аддзяленьня зямлі састаўляецца ў кожным павеце камісыя, ў лік якой уходзяць: Міравы Судзьдзя, Член паветовага самоупраўленьня і Упоўнамочаны Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маенасьці пад праводніцтвам Міравога Судзьдзі.

6. Якім парадкам Урад разьлічыцца з уласьнікамі, ў якіх прымусова аддзелена зямля і на якіх умовах надзеленыя зямлёй па гэтаму закону ваенныя людзі стануцца ўласьнікамі, аб гэтым пастановіць Устаноўчы Сойм.

7. Зямля, адходзячая для патрэб ваенных людзей, аддзяляецца ўсякі раз па пастанове Галоўнай камісыі аб надзеле ваенных зямлёй, якая складаецца з Міністраў: Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці, Унутраных Спраў, Дзяржаўнай Абароны і Справядлівасьці пад правадніцтвам гэтага апошняга. Пастановы Галаўнай камісыі-аканчацельны.

8. Кожнаму ваеннаму зямля даецца на правох ўласнасьці і пры гэтым у адным мейсцу і павінна складацца з:

а) 8-12 дзес. . . 1 разраду па гатунку
b) 12-16 „ . . 2 „ „ „
c) 16-20 „ . . 3 . „ „ „

9. Кожнаму такому пачынаючамуся гаспадарству з срэдстваў Дзяржавы даецца, як часовая запамога, да 100 шт. стаячага лесу, ад 6-8 вяршк. таўшчыні і на абсямяненьня да 30 пуд. насеньня азімага і 50 пуд. яравога.

10. Надзеленая зямля ня можа быць перадана другому, чы якім небудзь другім чынам пераўступлена бяз згоды Ўраду. У такіх выпадках Ўрад можа надзялёную зямлю адабраць, заплаціўшы выдаткі па пастройцы будынкаў і на палепшаньне зямлі.

11. Здаваць у арэнду дазваляецца за згодай Ураду толькі ў гэтакіх выпадках:

а) у выпадку сьмерці галавы сямьі, чы яго доўгай хваробы, калі яго дзеці малалетнія.

b) у выпадку прызыву галавы сямьі на ваенную службу, чы ў выпадку прызваньня яго выбарным шляхам да выпаўненьня дзяржаўных, чы грамадзянскіх абавязкаў, дзеля чаго ён сам зямлю ўрабляць ня можа.

c) у выпадку, калі галава сямьі павінен адлучыцца па пільным справам ад гаспадарства на больш ці менш доўгі час.

**А. Сьметона,** Прэзыдэнт Гаспадарства,
**М. Сьлежэвіч,** Старшыня Міністраў,
**Т. Петкевіч,** Заведуючы справамі Габінэту Міністраў.

Коўна, 20 чэрвеня 1919 году.

◆◆◆◆◆◆

## Беларускае войска.

Асвабаджаючы беларускую тэрыторыю ад варажай акупацыі, беларускае войска ўсьцяж пасуваецца наперад. Неапісуемы энтузіазм абхоплівае мяйсцовае насяленьне пры відзе сваіх родных збаўцаў ад чужацкае акупацыі. Шарэг мяйсцовасьцяў, як: Гімзы, Бяляны, Крывасельцы, (на заходнім беразе возера Снуды), Юраны, Плесы, Ванагішкі і многа другіх мяйсцоў ўжо асвабаджаны. Беларускае войска займае фронт 42 вярсты ўдоўжкі, баронючы як маскоўскі, так і латышскі фронт. Жыхары асвабоджаных мяйсцовасьцяў просяць пераслаць падзяку Міністру Беларускіх Спраў за дбаньне аб іх лёсе (напрыклад жыхары в. Дубна, Н.-Алекс. пав., дзякуюць за збаўленьне іх ад нямінучага грабежства) і просяць беларускай літэратуры.

У занятых вайсковымі беларусамі мяйсцовасьцях ўся ўлада, як вайсковая, так і цывільная, належыць ім-жа.

Вайсковыя беларусы стаяць на перадавой пазыцыі ўжо чацьвёрты месяц і ў хуткім часе, будуць камандзіраваны у беларускі Браслаў.

◆◆◆◆◆◆

## Міністры Літвы:

**Старшыня Габінэту д-р Казімір Грынюс**— сын сярэдня заможнага селяніна. Д-р Грынюс радзіўся ў 1867 г. ў вёсцы Селема-Руда, цяпер гміны Тарноўскай, Марыямпольскага павету. Скончыўшы ў 1887 г. гімназыю ў Марыямполю, паступіў на мэдыцынскі аддзел Маскоўскага Унівэрсытэту, які скончыў ў 1893 г. Па сканчэньню Унівэрсытэту, жыў ў Марыямполю, як вольнапрактыкуючы лекар і ад таго часу жыў ў быўшай Сувальскай губ., як лекар і дзеяч грамадзянскі з некалькімі прымусовымі перарывамі.

Распаусюжываў ен у сваім часе „Aušra“, быў адным з ініцыатароў „Varpas“ і „Ukininkas“ быў супрацоўнікам, а пасьля і рэдактарам гэтых выданьняў. Па звароце друку, арганізуе у Вільні „Lietuvos Ukininkas“ і „Lietuvos Žinios.“ Па выгнаньню з Сувальскай губ., жыў ў Вільні і прыняў на сябе рэдагаваньне гэтых выданьнаў. Пры іх эрганізуе цэлы сьцяг дадаткаў „Žemė“, „Sveikata„, „Mokykla“, „Aušrinė“, „Jaunimas“, „Vilniaus Kalendorius“, выдае шмат кніжэк. Працуе ў „Літоўскім хаўрусе навуковым“, у Марыямпольскім хаўрусе „Sviesa“, Марыямпольскім хаўрусе земляробаў, у хаўрусе „Žagre“, не апускаючы і успамянёных віленскіх выдавецтв, як член „суполкі Ф. Барткевічова і К.“ Грынюс дапамагае у арганізацыі „Хаўрусу Селянскага“. Па абвяшчэньні вайны, выехаў на паўночны Каўказ, дзе працаваў, глаўным чынам над арганізацыяй і кіраўніцтвам вялікага шпіталю на 2.300 ложкаў, утрымаванага праз земскі хаўрус у Гарызнавоцку каля Грознага. Абрыс водаў ў Гарызнавоцку і шпіталю выдаў д-р Грынюс у расейскай мове. У 1918-1919 г. жыў ў Кіславоцку і быў загадчыкам шпіталю дзеля сухотнікоў. Тутака у 1918 г., калі бальшэвікі напалі на Кіславоцк, 4 неякіх жаўнеры, ў часе грабежы, забілі яго жонку і 16 гадовую дачку. У канцы 1919 г. з Каўказу праз Канстантынопаль, Марсылею, Парыж і Бэрлін вярнуўся ў Літву і узноў замешкаў ў Марыямполю. Адтуль, як кандыдат спіску „Хауруса Селянскага“, быў выбран ў Устаноўчы Сойм.

◆◆◆◆◆◆

## Ваенна-палітычны абгляд

**За тыдзень.**

Мірныя перэгаворы паміж Савецкай Расеяй і Фінляндзіей 28 ліпеня гг. пачаліся зноў у Юрьеву, але мусіць, не найдоўга, дзеля таго што пасьля ангельскай прапазыцыі Савецкаму Ураду пачаць у Лёндане мірныя перагаворы з Польшчай, Фінляндзіей, Латвіей, і Літвой, Юрьеўскія пераговоры, муся, прэкрацяцца самі сабой.

У Эстонскай Рэспубліцэ міністэрскі крызыс прыймае зацяжны характэр. Вызван у Рэвэль прафэсар Піп, прэдстаўнік Эстоніі у Лёндане, якому маюць даручыць стварэньне Габінэту. У зносінах Эстоніі з Савецкай Расеяй наблюдаецца непамернае і масовае разьвіцьця кантрабанды, ня гледзючы на істнуючае палажэньне, па якому кантрабанда караецца сьмяротнай казьню.

На Латвійска-бальшэвіцкім фронце спатычкі паміж чырвонымі і латышамі за пройшлы час насілі характэр мейсцовых баеў у мэтах разьведкі.

На Літоўска-бальшэвіцкім фронце перагаворы паміж Савецкай Расеяй і Літвой па пытаньню аб эвакуацыі чырвонай арміей тэрыторыі, прызнанай за Літоўскай Рэспублікай па мірнай умове, йдуць удачна і бліжуцца ў канец. Сьвенцяны і Вільня ў хуткім часе будуць перэданы Савецкай Расеяй Літве. Мірная ўмова паміж Літвой і Савецкай Расеяй, падпісаная у Маскве 12 ліпеня г.г., ратыфікавана Устаноўчым Сойман Літвы 6-го жніуня.

Польшча зьвярнулася да Савецкай Расеі з просьбай аб пераміры. Пачкі на тым самым мейсцы, дзе каля двух гадоў таму ўзад савецкі мірны дэлягат Шнеур прэдстаў з белым флягам перад ген. Гофманам — цяпер спаткаліся польскія і савецкія парламэнцёры. Польская дэлегацыя I жніўня ў Баранавічах прэд'явіла упоўнаважаным Савецкага Ўраду мандаты польскага камандаваньня толькі для вядзеньня перагавораў аб пераміры. Савецкая дэлегацыя заявіла, што згодна пачатковай польскай прапазыцыі патрэбны мандаты польскага ўраду дзеля падпісаньня ня толькі варункаў пераміръя, але і аснаўных варункаў міру. Польская дэлегацыя на гэта заявіла, што змушана вярнуцца ў Варшаву і прэдставіць пытаньня на разгляд свайго Ураду. 2 жніўня польская дэлегацыя выехала ў Варшаву, а між тым наступленьне бальшэвікоў на Польшчу прадоўжаецца ў 3-х напрамках: крайняя правая група, складаючаяся глаўным чынам з конных частак, апэрыруе на поўначы ў мяжох Літвы, прасуваючыся ў бок Усходніх Прус, а Варшаве угражае армія, цяпер заняўшая Аўгустоў і Граева і наступаючая ўдоўж ліньні Варшаўскай зял. дарогі і армія, наступаючая канцэнтрычна ад Брэст-Літоўска. У гэты час ліньня фронту праходзе праз: Граева, Ломжу, Мазавецк; Шаперова, Цыхановец, на рацэ Буг, рацэ Стрыж у Таранопольскім і Гортнаўскім раёнах.

На паўднёва-заходнім фронце румынскіх войскаў, баронючых заходні бераг Днестру і Бэсарабіі, ваеннае, станавішчэ бяз перамен. Палітычна надта важным фактам зьяўляецца дазваленьня Румынскага Ўраду на пропуск праз Румынскую тэрыторыю ў Крым да гэн. Врангеля арміі Брэдова, быўшай да гэтага часу інтэрнаванай ў Польшчы.

На паўдневым фронце на Украіне хаўрус Польшчы з Петлюрай можна лічыць фактычна ліквідаваным, бо украінская нацыянальная армія, інстнуючая яшчэ на поўдні, апэрыруе незалежна ад польскага камандаваньня і яму не падўланыда, а сам Петлюра афіцыяльна заявіў польскаму Ўраду, што ён складае з сябе званьня „Начальніка Украінскай Дзяржавы“. На тэрыторыі Украіны знайходзяцца у гэты час 3 групы украінскіх часьцеў, зьбярогшых баеваспасобнасьць і вядучых аружную барацьбу з бальшэвікамі — гэта Сечавыя стрэльцы, так званая Армія Паўленкі і Адэская група галічан. Усе гэтыя часткі з самага пачатку польскага наступленьня аднасіліся варожа да Петлюраўскай авантуры, адмаўляўчыся зьліцца з польскай арміяй. Пасьля польскага разгрому бальшэвікамі, усе другіе украінскія часткі адарваліся ад польскай арміі і стварылі „самасьційны“ антыбальшэвіцкі фронт. Часткі паўкоўніка Пауленкі цяпер аперыруюць меж Адэсай і Жмэрынкай, творучы ўсёгды угрозу бальшэвікам. Сечавыя стрэльцы гуртуюцца у раёне Жытоміру і Белай Цэрквы. Ня гледзячы на тоя, што меж украінскімі часткамі і арміей Врангеля німа пакуль што сувязі і ня могуць дзеля таго мець мейсцэ каардынараваныя дзейства — украінцы однакже усілуюцца даць дапамогу гэн. Врангелю у тых частках фронту, дзе іх раздзеляе невялікая адлегласьць. З свайго боку гэн. Врангель аддау прыказ камандзірам асобных частак лічыць украінцаў, як дружэскую ваенную сілу. У Крыму, на фронце народнай арміі гэн. Врангеля, Махно самаахвотна ўлёг паўднёва рускаму камандаваньню, апрыч таго з згубай бальшэвікамі Таганрогу, Растова, Екатэрынадару і Новарасейска — пры дапамозе унутраных паўстаньняў — творыцца вялікі фронт, займаючы левым флангам Екатэрынаслаўскую губэрнію, дзе апэрыруюць паўстанчыя атрады Махно, а правы канчаецца на Кубані. Згода гэн. Врангеля з Махно і утварэньне апоры дзеля сваей арміі на „паўстанчэсьцьві“, зьяўляюцца тым новым фактам у барацьбе з бальшэвікамі, які адкрывае новыя пэрспэктывы, бо гэткім чынам ня толькі павялічываецца фронт, але галоўна забязпечываецца крэсьцьянскі тыл.

Ваенна-палітычнае палажэньне ў Закаўказьзю пацяжалела тым, што Савецкі Урад прэдьявіў Арменіі ультыматум з вымаганьнем пропуску бальшэвіцкіх войскаў праз Армянскую тэрыторыю Дзеля таго што Армянскі Ўрад адмовіўся выпоўніць гэта вымаганьне, другая чырвоная армія атрымала прыказ сілком заняць гэту тэрыторыю, ўвышла у правінцыю Карабаха і прадаўжае наступаць на Занзэгур і заняла ўжо вобласьць Херусы. Яўнай мэтай гэтага ваеннага манэўру зьяўляецца злучэньне з арміяй турэцкіх нацыяналістаў Мустафы Кемаля-Пашы. Такоя злучэньне прэдстаўляе сабой пэўную угрозу ангельскім інтэрэсам у Закаўказьі і Малай Азіі.

На Дальнім Ўсходзе, ў палітычных адносінах, трэба зьвярнуц увагу, на прэкрашчэньне з боку японцаў перагавораў з Верхняудзінскім Урадам і адклад эвакуацыі Забайкальля. Пастанова гэта з боку японцаў была прынята у сувязі з дамаганьням Верхняудзінскага Ўраду на прызнаньня яго, як Ураду ўсей Усходняй Сібіры, на што Японія не згадзілася.

Х. Ш.

◆◆◆◆◆◆

## ТЭЛЕГРАМЫ:

◆◆◆◆◆◆

КОЎНА, 3. 8. (Эльта). Спраўджана, што рускія вывозяць з Вільні у бок Менску мэбэль і другую маентнасьць.

КОЎНА‘ 6. 8. (Эльта). Аддзел Сацыяльнага абязпечэньня Міністэрства Унутраных Спраў саабшчае, што ў апошнім часе Ўрад Латвіі выселяе вельмі многа падданых Літвы, на глядзючы на тоя, што у Літве выселеньне чужаземцаў прыастаноўлена.

КОЎНА, 6. 8. (Эльта). Па сёньняшнім весткам Бэрлінскіх газэт, рускім удалося праламаць ліньню польскага фронту між Астраленкай і Астрабургам і гэтым змусіць палякоў пасунуцца да ліньні Віслы. Польскі Урад і хаўрусныя прэдстаўнікі пакінулі Варшаву і бягуць у Кракаў. У Варшаве паніка. Было жаданьне абвясьціць Савецкую Рэспубліку. Кожную гадзіну чэкаецца паяўленьне рускай кавалерыі каля сьцен Варшавы. Польскі Ўрад згаджаецца паслаць сваю мірную дэлегацыю у Менск толькі у тым выпадку, калі рускія гварантуюць тэлефонную і тэлеграфную сувязь паміж мірнай дэлегацыяй і польскім урадам. У склад польскай мірнай дэлегацыі увайдуць предстаўнікі ад Ураду, Сойму і войску.

КОЎНА, 6. 8. (Эльта) 6 жніўня пачнецца у Рызе канфэрэнцыя гаспадарстваў Балтыцкага пабярэжжа, у якой участвуюць Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндзія і Польшча. Украіна далучыцца з дарадчым галасам. Старшыня Літоўскай дэлегацыі д-р Шаўліс і члены: прэдстаўнік Літвы ў Рызе д-р Заўніс і сэкрэтар Устаноўчага Сойму Наткевіч. Канфэрэнцыя будзе разважаць пытаньня, датычачыя участвуючых гаспадаратвау, як то: валюты, транзыту, навігацыі, жалезнадарожныя, мытныя пошліны, пошт і тэлеграфаў. У праграму ўходзіць яшчэ і хаўруснае пытаньне ўсіх гаспадарствау Прыбалтыцкага пабярэжжа. Канфэрэнцыя мае мэтай спыніць ўсе недаразуменьня паміж участвуючымі гаспадарствамі. Гукаюць, што Беларусы і украінцы маняцца ўнясьцы на канфэрэнцыю пытаньне аб незалежнасьці іх краёў. Але няведама, чы згодзюцца учасьнікі канфэрэцыі разгледаць гэта пытаньне, бо Украіна састаіць і цяпер у фэдэрацыі з Расеяй і такім чынам гэта зьяўляецця ўжо ўнутраным пытаньням Расеі. I літоўска-польскае пытаньне не прыналежэ Рызкай канфэрэнцыі, як таго вымагалі-б палякі.

ПАРЫЖ, 3. 8. (Эльта.) „Таймс“ даносіць э Варшавы, што пасольствы ангельскае, амэрыканскае і францўзкае парадзілі грамадзянам сваіх краёў як найхутчэй кінуць Варшаву. Гэта зрабіла вялікае ўражэньнэ на жыхароў Варшавы.

БЭРЛІН, 4. 8. (Эльта). Як даносяць, ген. Пільсудзкі аддаў галоўнае вайсковае камандаваньне французам.

РЫГА, 4. 8. (Эльта). Іоффэ закамунікаваў Літоўскай Дэлегацыі у Рызе зьмест атрыманай э Масквы тэлеграмы, у якой цэнтральнае ваеннае камандаваньне выдае прыказ фронту, каб на занятай тэрыторыі Літвы палепшыць адносіны. Далей Іоффэ камунікае, што удзяліў адпаведных указаньняў Маскве, бо уважае патрэбнай найхутчэйшую перэдачу Вільні літвінам, якім толькі спосабам і будзе магчыма унікнуць непаразуменьняў з Літоўскім Урадам. Наша дэлегацыя стаіць на тым, што дэмаркацыйная ліньня можэ быць прасунута да ліньні зялезнай дарогі Маладзечна-Ліда.

МАСКВА, 6. 8. (Эльта). Па весткам Маскаўскага радзіо ад 5 жніўня бальшэвікі занялі 4 жніўня м. Ломжу і Мазавецк, станцыю Сепінтава і шарэг пунктаў к захаду. Пасьля усільных баеў, бальшэвіцкія часьці занялі Цеханово і падайшлі к рацэ Буг. У напрамку Седлецку бальшэвікам удалося зламаць цьвердае упорства палякоў. У раёне Тарнополю і Чарткова бальшэвікі адціскаюць палякоў у напрамку да ракі Стрыпы.

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коуна, Вуліца Адама Міцкевіча, 13а,

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕСА, КОЎНА.